 

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 3 (1195) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 21 СТУДЗЕНЯ 1979 г. ЦАНА 60 гр.

**ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ**

## УСЁ З ЗЯМЕЛЬКІ

Калі толькі пачынаецца размова пра ганчара, на язык заўсёды так і просіцца вядомая прыказка: „не святыя гаршчкі лепяць“. Так то яно так, але вылепіць звычайны гладыш, верціху, міску ці кубачак нават — гэта не такая ўжо простая справа. А што ўжо казаць, калі возьмем розныя аздобленыя багатымі ўзорамі вазы, насценныя замыславатыя, размаляваныя талеркі, далікатныя мініяцюрныя флакончыкі і мноства іншага? Усё гэта лічыцца мастацкай керамікай, хоць яго радавод пачынаецца ад звычайнага гладыша.

Керамічныя вырабы Беластоцкай спулдзельні народнага і мастацкага рамяства не толькі не залежваюцца ў гандлёвых складах, але якраз наадварот: колькі б іх не пайшло ў крамы, яны адразу ж распрадаюцца. Асабліва славутая беластоцкая зялёная кераміка. На яе „палююць“ па ўсёй Польшчы, яна карыстаецца вялікім попытам у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, яе любяць у Швецыі, Японіі і шэрагу іншых краін свету. І не выпадкова: беластоцкія вырабы ўсіх захапляюць сваімі арыгінальнымі формамі і надзвычай густоўнымі ўзорамі і колерамі.



Набываючы іх у падарунак знаёмым пры розных нагодах ці таксама сабе, каб паставіць на самым відным месцы ў пакоі, мы нават і не здагадваемся, хто гэта са звычайнай гліны вычароўвае такую прыгажосць.

На керамічным прадпрыемстве спулдзельні працуе некалькі дзесяткаў чалавек, і ўсе яны дбаюць пра высокія мастацкія і ўжытковыя якасці сваіх вырабаў. Аднак цэнтральнай постаццю сярод іх з'яўляецца **Іосіф Гайдучэня** — звычайны рабочы. Усе ў спулдзельні з вялікай пашанай і сардэчнасцю гавораць пра гэтага чалавека: „наш пан Юзэф“, „залатыя рукі“, „добры дух нашай спулдзельні“, „наш самародны талент“...

І вось я размаўляю з гэтым пяцідзесяціпяцігадовым, сярэдняга ўзросту хударлявым і рухлівым чалавекам. У яго блакітных вачах бачу тыя задуменнасць і спакой, што ўласцівы перш за ўсё беларускім сялянам. Бо і паходзіць І. Гайдучэня з вёскі Дрэчаны, што каля Свіслачы. У 1944-46 гадах працаваў ён на керамічным прадпрыемстве ў суседніх Ганчарах. Там спазнаў таямніцы вырабу самых разнастайных вырабаў з гліны. І калі ў 1946 годзе разам з сям'ёй і родзічамі пераехаў у вёску Зубры, што каля Гарадка, адразу разам з братам Станіславам узяліся за гаршэчніцтва. Збудавалі за сялом печ, на зіму нарыхтавалі гліны, каб добра „злясавалася“, навазілі дроў і селі да нажных у тыя часы ганчарных колаў.

— Попыт на нашыя гаршчкі быў вялікі, — успамінае тыя далёкія ўжо часы І. Гайдучэня. — Прадавалі мы іх цэлымі вазамі на торгу ў Гарадку і на месцы ў Зубрах. Вазілі таксама па вёсках па ўсім абшары, ад Крынак пачынаючы і аж на Ялоўцы канчаючы. Бралі іх людзі нарасхват. Памятаю, аднойчы цэлую фуру розных гладышоў, верцехаў, місак ды кубкаў мы распрадалі за пару гадзін у адной толькі вёсцы Падазяраны. Ведаеце, пасля вайны ў людзей надта ж посуду бракавала. А і не продаж гэта ў нас быў, а проста абмен: за пасудзіну мы бралі столькі збожжа, колькі ў яе ўлезла. Уся наша сям'я ў той цяжкі час з ганчарства і кармілася, і апраналася, і гаспадарку заводзіла...

Але потым настаці непрыхільныя для саматужнага рамяства часы: павысіліся розныя падаткі і зменшыўся спрос на яго вырабы, бо ў крамах стала ўсё болей прыбываць эмаліяванага, шклянога ды іншага посуду. З ганчарнай печы каля Зуброў цалкам перастаў віцца пахучы дымок, пад паветкай зарасло павуціннем кола. І. Гайдучэня падаўся ў 1950 годзе да працы на чыгунцы і працаваў там пры розных работах на пабудове і пры доглядзе пуці да 1964 года.

— Ці не хацелася да ганчарнага кола, пытаеце... Чаму ж не? Але ўсё неяк не выходзіла. Але як толькі пачуў я, што ў гэтай спулдзельні ёсць свабоднае месца для ганчара, адразу сюды падаўся. Як першы раз узяўся гліну мясіць, то, ведаеце, аж сэрца зайграла...

І так ужо пятнаццаць год з-пад яго ўмелых рук выходзяць усе формы для адліўкі славутай зялёнай керамікі. Ён даглядае за тым, каб гліна з машыны была адпаведна мяккая, і яшчэ яе дадаткова месіць рукамі. Пад яго пальцамі на электрычным ужо ганчарным коле, быццам у казцы, вырастаюць розныя чароўныя вазоны, вазы, флаконы і мноства іншага. Без яго не абыходзіцца закладка вырабаў у печы для выпальвання і ўжо аніяк не бывае, каб закончылася гэтае самае выпальванне не пад яго спрактыкаваным вокам. Ва ўсю гэтую працу ён укладае ўсяго сябе, усе свае помыслы. А іх у І. Гайдучэні не мала: нядаўна ён разам з мастаком-керамікам запраектавалі новую форму вялікага флакона на кветкі. У гэтай форме адрадзіліся тыя вялікія паліваныя слаі, якія ён рабіў у Ганчарах і Зубрах ды прадаваў сялянам на замочванне брусніц ці засолку грыбоў. І гэта далёка не першы раз...

У часе нашай размовы ён некалькі разоў збягаў з канторкі па стромкіх усходнях уніз, да печаў, хоць там працавалі адказныя людзі ды трымцелі стрэлкамі розныя спецыяльныя кантрольныя апараты. „Але, — маўляў ён, — я больш на сваё вока прыкідваю, ці яшчэ паліць, ці ўжо канчаць. Бо гэтыя самыя апараты, то штука добрая, але людское вока пэўнейшае...“

Неабходна дадаць, што гэты чалавек штодня ўстае а трэцяй або чацвертай гадзіне раніцы, ідзе каля трох кіламетраў на чыгуначную станцыю, каб на сёмую быць на рабоце. Пасля работы ён чакае цягніка і вяртаецца ў Зубры недзе каля шасці гадзін вечара. І так і ўлетку, і ўзімку...

— І, вярнуўшыся дахаты, яшчэ ўсю гаспадарку даглядзець трэба, — заўважае ён. — Праўда, яе ў нас з жонкай усяго каля сямі гектараў, але як ні як, работы хапае. Ды я не наракаю: люблю і каля гаршчкоў гэтых самых пахадзіць так, каб яны людзям да спадобы прыйшліся, ну і каля гаспадаркі таксама ахвоч патупаць, каб люба воку было...

Дзеці І. Гайдучэні працуюць у сельскагаспадарчым кааператыве ў Зубрах: сын Генрык узначальвае палявую брыгаду, а дачка Данута працуе рахункаводам. Яны такія ж ахвочыя і дбайныя ў працы, як і іхні бацька.

А ён усё сваё жыццё зачараваны то гаршчкамі, якіх ужо выпусціў у свет сотні тысяч, калі не мільёны, і сваімі загонцамі з жытам, авёсікам, бульбачкай. „Бачыце, — задуменна кажа ён, — усё яно з зямелькі гэтай самай....“

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара




* ✲ *

*Вецер грукнуў форткай.*
*Прабудзіся.*
*Пачалося восені выццё.*
*Калі можаш абысціся —*
*Абыдзіся*
*Без жабрацкай скаргі на жыццё.*

*Што з таго, што ў нечым ты раскаешся,*
*Спавядальна ў грудзі патаўчэш?*
*Ад сябе самога не схаваешся,*
*Ад сябе самога не ўцячэш.*

*Лёгка мы сабе грахі даруем,*
*Іншых б'ём з-за дробнае віны,*
*Ад малой няўдачы ўжо гаруем,*
*Забываем гора дзён вайны.*

*І, да блізкіх вельмі неашчадныя,*
*Рэдка вымаўляем мы: „Прабач“.*
*Веру я у слёзы ачышчальныя,*
*Веру ў добры дзень пасля няўдач.*

*Лістападу радуйся, і снежню,*
*І вятрам асеннім, і снягам.*
*І малая крыўда здасца смешнай,*
*І як слаўна жыць — адчуеш сам.*

*Гэта ўсё не штучная бадзёрасць,*
*Ісціну адну ты зразумей:*
*Тое, што здаецца нам будзённым,*
*Нібы свята ўспомніцца пазней.*

* ✲ *

*Хмары плаваюць над намі,*
*Зеляніна ўсё радзей.*
*Раз'яднанне, раз'яднанне*
*Дрэў, і птушак, і людзей.*

*Лісця жоўтае кружэнне,*
*Насцярожанасць травы.*
*Адчужэнне, адчужэнне*
*Ад высокай сінявы.*

*Гром апошні раз прагрукаў...*
*Дзе самоту мне падзець?*
*Ток і лазня, печ і грубка,*
*Вы ядналі век людзей.*

*Што людзей яднае зараз?*
*А ўсё тое ж: поле, цэх.*
*Часам чара, часам кара,*
*Часам грэх, а часам смех.*

*А суседзі сына жэняць,*
*Тут не восеньскі настрой...*
*Лісця жоўтае кружэнне,*
*Спелы яблычны настой.*

* ✲ *

*А птушкі знікаюць...*
*Не верце*
*Паклёпніцкім слухам такім.*
*На стомленых крылах праз вецер*
*Вяртаюцца з поўдня гракі.*

*Навошта у верш прывалок я*
*Вясёлае племя гракоў?*
*Па вушы, па вочы, па локці*
*Мяне засмактаў неспакой.*

*Мне блага з-за нейкіх падманаў,*
*І тупае злосць за сцяной.*
*Імгла сакавіцкім туманам*
*Стаіць між табою і мной.*

*І я ўжо баюся; забуду*
*І нават у сне не прысню*
*Сваю дарагую зануду,*
*І праўду яе, і хлусню...*

*Пасля каламутных мяцеліц*
*Мы удвух ля акна памаўчым*
*І скажам: „Гракі прыляцелі...“*
*Сайрасаў, ты тут ні пры чым.*

**Пімен Панчанка**



*Піліпкі. Аб гэтай вёсцы чытайце на стар. 4 („Гаворыць солтыс Ваўранюк“).* *Фота М. Шаховіча.*

 

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### НАЙАКТЫЎНЕЙШЫЯ ПОП

У Заблудаўскай гміне дзейнічае 30 пярвічных партыйных арганізацыяў (ПОП), якія згуртоўваюць звыш 500 членаў. Да найактыўнейшых належаць вясковыя ПОП у Рафалоўцы (сакратаром яе з'яўляецца Зыгмунт Шыманскі) і ў Паўлах (сакратар Ян Галубоўскі), у сельскагаспадарчай прадукцыйнай спулдзельні (РСП) у Рыбалах (сакратар Багуслаў Ляхоўскі) і ў ПОМ у Беластоку (сакратар Сяргей Макаль).

### ДАРОГІ НА БЕЛЬШЧЫНЕ

У Бельскай гміне дарогі не зусім добрыя. Многія з іх неабходна неадкладна рамантаваць. У першую чаргу рамантуюцца яны там, дзе ездзіць найбольш самаходаў і фурманак, сельскагаспадарчых машын, і тыя дарогі, якімі штодзень ходзіць у школу найбольш вучняў.

Гмінныя ўлады на мадэрнізацыю дарог і на падтрымку грамадскіх пачынаў выдаткоўваюць у сярэднім 2,5 млн. злотых у год. Варта прытым адзначыць, што жыхары тутэйшых вёсак актыўна ўключаюцца ў грамадскія пачыны. І так у мінулым годзе найбольш папрацавалі пры рамонце дарог сяляне з Арэхавічаў, Леўкаў і Кнарыдаў. Спорна ішла пабудова дарогі з Агароднікаў у Відава. У тым жа годзе была закончана пабудова асфальтаванай дарогі Плёскі—Пасынкі—Крывая да бельска-гайнаўскай шашы.

У бягучым годзе будуць будавацца наступныя адрэзкі дарог: з Храбалоў у Кнаразы і далей з Кнаразоў у Зубава. Паабапал спамянутых дарог будуць выкапаны равы і на іх будзе навезены жвір. **(яц)**

### У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

У 1977 годзе ў Арлянскай гміне навезены жвірам паўтаракіламетравы адрэзак дарогі з Орлі ў Спічкі, 300 метраў дарогі з Паўлінова ў Вульку Выганоўскую і адрамантаваны вуліцы ў Алекшах і Малінніках.

У 1978 годзе ў спамянутай гміне пабудавана асфальтнае палатно на дарозе з Пашкоўшчыны да бельска-кляшчэлеўскай шашы, перабудаваны значны адрэзак вуліц: Бельскай, М. Канапніцкай і Чырвонай Арміі ў Орлі, добраўпарадкаваны дарогі: Орля—Кашалі—Шэрні—Маліннікі, Грэдалі—Вулька Выганоўская і адрэзак дарогі Орля—Рэдуты.

З гміннага фонду і ў грамадскіх пачынах адрамантаваны вуліцы ў Міклашах, Крывяцічах, Тапчыкалах, Крывой і Рэдутах.

Мадэрнізавана вулічнае электраасвятленне ў вёсках: Дыдулі, Грэдалі і Кошкі, а таксама на вуліцы Чырвонай Арміі ў Орлі. У гэтым годзе новае вулічнае асвятленне атрымаюць вёскі Крывая і Крывяцічы.

У бягучым годзе будзе распачата пабудова 3,5 км дарогі з Маліннікаў у Грыгораўцы.

У Арлянскай гміне рамонту патрабуюць яшчэ дарогі: з Тапчыкалаў да дарогі Пашкоўшчына—Орля, з Кошак у Трэдалі і з Москаўцаў у Чэхі Забалотныя. Усе яны будуць у цэнтры ўвагі гмінных улад. **(яц)**

## Разведка гаспадарнасці

### ВОСЬ ДЫК ПАЧАКАЛЬНЯ!

17 снежня 1978 года паехаў я з Беластока ў Райск. Назад вяртаўся поездам, які з райскага чыгуначнага прыпынка ад'язджае ў гадз. $18^{44}$. Поезд спазняўся ды і на дварэ было холадна (18 градусаў марозу), таму зайшоў я ў пачакальню. А там штосьці небывалае: цёмна, холадна і поўна недакуркаў ад папяросаў. Цёмна, бо касірша не ўключае электраасвятлення (столькі ж цяпер гаворыцца пра ашчаджанне электраэнергіі, а пасажыры і так могуць абыйсціся). Холадна, бо ў печцы не напалена і дзве шыбы ў акне выбіты. Недакуркі, бо хто ж іх будзе класці ў кішэню! А што ў пачакальні курыць забаронена (гэтак заведзена ва ўсёй краіне), дык хопіць адазвацца пра гэта, дык абсмяюць, а то і ў цёмным кутку зоркі можна ўбачыць.

Захацеў даведацца, калі ад'язджае поезд. Табліца вісіць на сцяне, але не паладзены на ёй гадзіны. Дык з пытанем да касіршы. Нялёгка і ёй тут даводзіцца. Па ўсяму відаць, што ёй вельмі холадна. Сядзіць яна ў кажуху і з завязанай хусткай на галаве. А ў пачакальні мерзнуць людзі. Каму такія пачакальні?

**Іван Непаседа**

## ГАВОРЫЦЬ СОЛТЫС ВАЎРАНЮК

Іван Ваўранюк, так як кожны солтыс вёскі, з'яўляецца арганізатарам, прадстаўніком інтарэсаў сваіх аднавяскоўцаў, памочнікам гміны ў выкананні пастаўленых перад ёю заданняў. Солтыс збірае фінансавыя аплаты дзяржаве, выдае пасведчанні аб месцы паходжання жывёлы, бярэ ўдзел у пасяджэннях, арганізаваных гмінай, служыць парадай і дапамогай тым, хто звяртаецца да яго як да чалавека, маючага беспасрэдную сувязь з дзяржаўнай адміністрацыяй. Як правіла, сяляне выбіраюць солтысам чалавека, найбольш шанаванага ў вёсцы, ініцыятыўнага, добрасумленнага.

Іван Ваўранюк з Піліпак выконвае гэтую ганаровую функцыю ад 1958 года. Сваёй паставаю, актыўнасцю і арганізатарскімі здольнасцямі ў вялікай ступені спрыяў дасягненням Піліпак. Аб жыцці і працы жыхароў гэтай вёскі мы папрасілі расказаць Івана Ваўранюка.



Распачаў ён свой расказ пра вёску, пачынаючы ад першых год пасля вызвалення. Паводле яго слоў, усе гаспадары Піліпак, а налічвалася іх больш 50-ці, шчыра ўзяліся за апрацоўку зямлі, за будову гаспадарчых будынкаў і дамоў. А дамоў было пастаўлена 10 і значна больш адноўлена.

Найбольшай падзеяй у вёсцы была яе электрыфікацыя і ліквідацыя цераспалосіцы. Гэтыя мерапрыемствы далі магчымасць выкарыстоўваць сельскагаспадарчыя машыны і машыны дамашняга быту, уключна з халадзільнікамі і сціральнымі машынамі.

Вёска мела шмат непрыгоднай зямлі. Было 30 гектараў падмоклай і 30 гектараў нізкаякаснай. І вось на падмоклай зямлі была праведзена дрэнацыя, а на нізкаякаснай грамадскім чынам сяляне пасадзілі лес.

У Піліпках быў знішчаны брук. Жыхары вёскі дружна ўзяліся за працу і грамадскім чынам аднавілі вуліцу. Да шашы была дрэнная дарога. Яе таксама адрамантавалі, абкапалі і пасадзілі 200 таполяў. Палявыя даяздныя дарогі адыгрываюць вялікую ролю ў апрацоўцы зямлі. Таму іх рамантуюць, робяць піліпкаўцы ў патрэбных месцах бетонныя пропускі вады.

З кожным годам паляпшаўся быт сялян і адначасова вырасталі новыя патрэбы. У вёсцы не было святліцы і крамы. Калектыўна было вырашана пабудаваць на гэтыя ўстановы спецыяльнае памяшканне. Дзякуючы адпаведным захадам, вёска атрымала дом у Беластоку, які быў прызначаны на ліквідацыю. Перавезлі яго і пры дапамозе Бельскай гміны пабудавалі святліцу. У гэтым будынку знайшлося таксама месца на вясковую краму.

Раней не было дзе сабрацца на сход. А цяпер у святліцы адбываюцца не толькі сходы, але і танцавальныя вечары. Ды калі ў каго ў вёсцы вяселле ці нават хрысціны, дык прыходзяць аднавяскоўцы да солтыса. У солтыса, як апекуна святліцы, знаходзяцца ключы ад святліцы. Крама таксама дае вялікую выгаду вёсцы. У ёй ёсць усе артыкулы першай патрэбы.

Неабходна сказаць і аб тым, што моладзь пайшла вучыцца ў сярэднія і вышэйшыя школы. Многія піліпкаўцы працуюць у гарадах на прадпрыемствах і ўстановах, займаюць адказныя пасады.

Але не менш, а мо нават больш заможна жывуць гаспадары Піліпак. У вёсцы 35 тэлевізараў, шмат сціральных машын і халадзільнікаў, а таксама сельскагаспадарчых машын. Сяляне гадуюць шмат кароў, свіней, здаюць дзяржаве малако і мяса. Многа кантрактуюць таксама бульбы, ільну, лубіну і сырадэлі. А, як вядома, кантрактаваныя культуры вышэй платныя.

Варта сказаць і аб тым, што бельскі ГС два разы ў месяц высылае свой транспарт і прадстаўніка, ды скупленую жывёлу адвозіць на базу. Выгадна сялянам і тое, што ў вёсцы ёсць пункт камісовага продажу мінеральных угнаенняў. Знаходзіцца ён у солтыса Ваўранюка.

У вёсцы шмат добрых гаспадароў. А вось некаторыя з іх: Мікалай Паўлючук (сын Паўла), Аляксандр Паўлючук, Кузьма Нікалаюк, Дзянісій Іванюк, Мікалай Аўрамюк ды сам солтыс Іван Ваўранюк.

На заканчэнне нашай размовы солтыс з вялікім націскам падкрэсліў значэнне пенсій старым вясковым людзям, якія перадалі зямлю дзяржаве. Ёсць у Піліпках пакуль што два такія пенсіянеры. Ніхто цяпер на вёсцы не думае аб тым, што на старасць, калі працаваць на гаспадарцы будзе ўжо не пад сілу, жыць не зможа, бо пенсія будзе, значыць будзе за што пражыць, не патрэбна будзе нічыя ласка.

Тэкст і фота
**Міхася Хмялеўскага**

## Беларуская літаратура

Аляксандр Барвшэўскі

### НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XXII

Характэрнай рысай паэмы „Сымон-Музыка" з'яўляецца музычны матыў. Пранікае ён паэму не менш інтэнсіўна, чым прырода. Ставячы ў цэнтры твора постаць народнага музыканта, Колас адклікаўся і да беларускага фальклору, і да сусветнай рамантычнай літаратуры. Аб ролі музыкі ў рамантычнай пісьмовасці польскі даследчык Васылеўскі піша наступнае:

„A jeśli umiał romantyzm koić bóle i pozwalać choć na chwilę o nich zapomnieć, to najpewniej za sprawą muzyki. Ona jest najwyższą sztuką nie tylko dlatego, że ją za taką uznał Hegel, ale dlatego że dzięki niej romantyzm stał się symfonią patetyczną i zdołał długo trzymać duszę na uwięzi" (S. Wasylewski, o miłości romantycznej, Kraków 1958, s. 32).

## Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Мележ Іван**, Дзённікі, сшыткі, запісных кніжак. Кніга першая, 1977, стар. 272, цана 22 зл.

Успаміны ў гэтай кнізе пачынаюцца недзе напярэдадні Другой сусветнай вайны і даходзяць да канца 1942 года.

**Кандрусевіч Аркадзь**, Кругі на Белай паляне, 1977, стар. 208, цана 7 зл. 20 гр.

Зборнік, у які ўвайшло некалькі апавяданняў і аповесць пра людзей старэйшага ўжо пакалення, што прайшлі праз пекла апошняй вайны і сваімі рукамі ўзнялі Савецкую Беларусь з папялішчаў.

Беларуская анамастыка, 1977, стар. 200, цана 22 зл.

Зборнік навуковых артыкулаў пад агульнай рэдакцыяй вядомага беларускага мовазнаўцы-анамастыка акадэміка АН БССР М. В. Бірылы. У выданні знаходзім, між іншым, артыкул В. А. Жучкевіч „Колькасныя і статыстычныя метады ў тапаніміі" і шэраг іншых артыкулаў, а таксама вельмі каштоўную працу М. В. Бірылы і В. П. Лемцюговай „Працы па беларускай анамастыцы (1955-1975). Бібліяграфічны ўказальнік".

Беларусь, 1977, каля 200 стар., цана 151 зл. 40 гр.

Выдадзены на вельмі высокім мастацкім і тэхнічным узроўні, надта багаты каляровы фотаальбом. У ім змешчаны фатаграфіі з самых разнастайных галін гаспадарчага і культурнага жыцця Савецкай Беларусі, паказана краса яе прыроды, помнікі старажытнасці, велічныя збудаванні і звычайны будні дзень. Нарыс па гісторыі і эканоміцы БССР дапаўняе і паглыбляе гэты вобраз.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым заліччэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki", Białystok, ul. Kilińskiego 10.

**(мг)**

(Працяг са стар. 3)




Я не перaймалася гэтым, у мяне быў дэвіз: абы работа ішла добра.

Вынік нашай перадачы ў вёсцы Дзернякова: гаспадар, які меў даўгі ў плане, вярнуўся з Гарадка падхмелены. Якраз у гэты час была перадача аб Дзернякове. Між іншым, назвалі і яго прозвішча. Так яго ўзяло, што сарваў са сцяны „точку" і біў нагамі. „Точку" ці мяне? Аднак план выканаў.

Былі выпадкі куды горшыя. Пісалі скаргі аж у Варшаву. Прыязджалі візітатары правяраць мае гутаркі. Візітаў такіх я не баялася, матэрыял для перадач я брала з канкрэтных дадзеных, не са столі.

Праз радыёвузел заахвочвалі мы сялян прымяняць штучныя ўгнаенні, крытыкавалі недахопы мясцовага ГСу і г.д. Са смуткам прызнаюся: так была захоплена гэтай працай, што забыла аб сцэне. Усе ўрачыстасці, нават Міжнародны жаночы дзень абслугоўвалі дзеці падставовай школы. Не скажу аднак, што апрача радыёвузла да ўсяго іншага была абыякава. Цікавіла мяне праца бібліятэкі (кіравала ёю Яўгенія Савіцкая). Кніг прыбывала і былі яны ўсё цікавейшыя. Блізкімі былі мне таксама справы прадшколля і школы. У Лізе жанчын была даволі актыўная. Многа чытала. Рассмакавалася ў кнігах. Кнігу параўноўвала з платформай, на якой прыязджае да нас бясцэнны скарб — веды.

Бібліятэкі арганізавалі чытальніцкія конкурсы. Вось на сходзе Лігі жанчын 11 лістапада 1953 года Яўгенія Савіцкая прапанавала арганізаваць чытальніцкі калектыў і прыняць удзел у чацвертым этапе чытальніцкага конкурсу. Конкурс заключаўся ў чытанні мастацкай, палітычнай і сельскагаспадарчай літаратуры. Каб удзельнічаць у ім, трэба было прачытаную працу пераказаць сваімі словамі на паперы і выслаць у павятовую бібліятэку ў Беласток.

У гэтым конкурсе прыняло ўдзел 30 гарадоцкіх жанчын. Вырашылі мы чытаць супольна (уголас). У кожны чацвер у 19 гадзін у гмінную святліцу (была такая, але вельмі прымітыўная) прыходзілі жанчыны на такое чытанне. Прыносілі з сабой і занятак для рук: вязалі шапачкі, латалі бялізну, цыравалі панчохі.

Трэба было ўмела падбіраць літаратуру, каб зацікавіць жанчын, якія ніколі ў жыцці не чыталі кніжак. І мы з бібліятэкаршай доўга задумоўваліся над выбарам. Першай кнігай, якую мы супольна прачыталі, была „Уляна" Крашэўскага. Чыталі таксама „Паднятую цаліну" Шолахава і сельскагаспадарчую літаратуру. Чыталі: кіраўнічка бібліятэкі, адна зэтэмпоўка і я. Пасля чытання разгортвалася дыскусія. У ёй асаблівае месца занялі сельскагаспадарчыя кнігі. Чытанне гэтай літаратуры заахвоціла нас да кантрактацыі ільну і грэчкі. 11 жанчын вырашыла ўзяць ад гміны ў дзяржаву гектар зямлі і пасеяць на ёй лён (0,40 гектара) і грэчку. Афармленне даручана мне. Аформіла. Зямельная дзялянка ёсць. Вясной пачнем яе апрацоўваць.

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ — PUSSYCAT



**Заказвалі:** Данута Янчарак з Фальваркаў Тыльвіцкіх і Тарэса Мячкоўская.



## Кансультацыя юрыста



ПЫТАННЕ: О. працаваў настаўнікам 26 год. Яму споўнілася ўжо 56 год. Ён з'яўляецца ветэранам вайны і належыць да Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю. Ці можа ён ужо перайсці на пенсію?

АДКАЗ: Паводле закону з 23 кастрычніка 1975 года аб далейшым павелічэнні належнага ветэранам і вязням канцэнтрацыйных лагераў, ветэраны і вязні канцэнтрацыйных лагераў, якія працуюць, могуць па сваёй просьбе перайсці на пенсію. калі ім споўніцца: мужчынам 60 год, а жанчынам 55 год, калі маюць стаж працы, патрэбны да атрымання пенсіі, г. зн. мужчыны — 25 год, а жанчыны — 20 год. О. як настаўнік і без гэтага закону мае права перайсці на пенсію, калі яму споўніцца 60 год. Узнікае пытанне, ці на аснове гэтага закону ўзрост, у якім ён можа перайсці на пенсію, можа быць скарочаны на далейшыя пяць год. Паколькі цытаваны закон выразна ўстанаўляе, што можа пайсці на пенсію мужчына, якому споўнілася 60 год, і жанчына ў 55 год, а няма ў ім правіла, што тым працаўнікам, якія маюць права перайсці на пенсію ў гэтым узросце, незалежна ад гэтага закону можа быць узрост, у якім могуць перайсці на пенсію, яшчэ на пяць год скарочаны, на пастаўленае пытанне трэба адказаць, што О. не можа патрабаваць перавядзення яго на пенсію раней, чым яму споўніцца 60 год.

## Куток практычных ведаў




### ПРА НАША ЗДАРОЎЕ І ЛЕКАМАНІЮ

**У апошні час назіраецца паўсюднае злоўжыванне лякарствамі. Што з'яўляецца прычынай гэтага?**

**У сувязі з развіццём навукі на рынак уводзіцца ўсё большая колькасць лячэбных сродкаў. У людзей ствараецца ўражанне, што кожную хваробу ці нават яе першыя прызнакі можна ліквідаваць пры дапамозе адпаведнага лякарства. І таму паўсюдна прымаюць самыя розныя сродкі, каб ліквідаваць нават самую дробную хваробу ці недамаганне.**

**Асабліва расце выкарыстоўванне супакойваючых лякарстваў, якія папраўляюць настрой і самаадчуванне, змяншаюць напружанне, папраўляюць кардынацыю мышлення, паляпшаюць здольнасць да працы. Паколькі гэтыя лякарствы выдаюцца на рэцэпты, дайшло ўжо да таго нават, што пацыенты проста націскаюць на дактароў, каб ім іх выпісвалі. На шчасце, рынак у Польшчы не засыпаецца бязвартаснымі лякарствамі. За гэтым сочыць камісія лекаў пры міністры здароўя і грамадскай апекі. Ёсць аднак праблема і са злоўжываннем вартаснымі лякарствамі, напрыклад, вітамінамі, якія прымаюцца ў нашым грамадстве ў празмерных колькасцях. Людзі не думаюць аб тым, што занадта частае прыманне вітамінаў у таблетках можа адмоўна ўплываць на прысвойванне вітамінаў з харчоў, а занадта вялікая доза вітаміна А ці Д можа нават выклікаць канкрэтныя паталагічныя станы.**

**У сувязі з гэтым неабходна перасцерагаць людзей перад небяспечным злоўжываннем лякарствамі. Прыкладаюцца вялікія намаганні да таго, каб выпускаць на рынак лякарствы з мінімальнай ступенню шкоднасці. Няма аднак лякарстваў цалкам няшкодных. Таму нават найлепшыя лякарствы, калі іх прымаць даволі доўга і без кантролю доктара, могуць выклікаць ускладненні. Апрача таго, варта ведаць аб тым, што лякарствы, якія прымаюцца адначасова, узаемадзейнічаюць, выклікаючы так званую інтэракцыю. Можа быць яна станоўчая (калі адно лякарства дапамагае дзеянню другога), але можа быць таксама шкодная (калі нейкае лякарства нейтралізуе ўплыў іншага або ўзмацняе яго дзеянне так моцна, што могуць выступіць таксічныя рэакцыі).**

**Нельга прымяняць лякарстваў, якія рэкамендуюць вам знаёмыя, бо некаму там яно дапамагло. У часе лячэння ў двух дактароў розных спецыяльнасцей неабходна інфармаваць абодвух, якія лекі прымаюцца. Не варта рабіць з хаты аптэчнага складу, бо лякарствы псуюцца і ў іх могуць узнікаць зусім іншыя рэчывы, шкодныя для здароўя.**

**Эскулап**




Дарагое Сэрцайка! Мне 20 год. Выйшла я замуж два гады назад. Жылі мы добра і згодна. Але ад нейкага часу Янка вельмі змяніўся — сварыцца са мной, а я ж яго вельмі кахаю. Аднойчы вечарам выйшла я з хаты і што ўбачыла. Мой Янка ішоў па вуліцы, абняўшыся з незнаёмай мне дзяўчынай. Вярнуўся дамоў, але я яму нічога не сказала. Парай, „Сэрцайка", што мне рабіць?

Яўгенія

Яўгенія! Не хачу цябе пужаць, але здаецца, Янка зацікавіўся новай дзяўчынай. І гэтая змена ў яго паводзінах па той прычыне. Раю пагаварыць табе з мужам неадкладна, каб перарваць сувязь з гэтай дзяўчынай, бо чым далей, тым мацней можа ён заангажавацца пачуццямі. Ты выйшла замуж у 18 год, пэўна, і муж твой таксама малады. У такіх маладых людзей пачуцці пераважна нетрывалыя, хутка ўспыхаюць і хутка гаснуць. Таму небяспечна такім маладым жаніцца. Яны ж кіруюцца выключна пачуццямі. Не бачаць тады адмоўных рыс характару. Усе хібы прыкрыты дымнай заслонай пачуццяў. А яны астываюць хутка. Дымная заслона развейваецца і паказваецца рэальны вобраз партнёра з яго хібамі. І часта ў роспачы, хапаючыся за галаву, хлопец ці дзяўчына кажа: „Як я выйшла за цябе, дзе былі мае вочы?!" І хацелася б вырвацца з гэтага, але, на жаль, позна, пераважна пішчаць ужо малышы. Такі пераважна бывае фінал жаніцьбы неразважлівых і непадрыхтаваных яшчэ да сямейнага жыцця маладажонаў. Каб не было расчараванняў, вазьміце пад увагу вышэй сказанае, хлопцы і дзяўчаты!

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! У першых радках віншую цябе з новым 1979 годам. Жадаю табе перш за ўсё здароўя, поспехаў у тваіх справах і многія лета. Я сюды ў Белавежу прыехала з СССР у госці да цёці. Пабуду тут яшчэ тры тыдні. У мяне да цябе вялікая просьба: каб ты мне разгадаў мой сон і напісаў на працягу гэтых трох тыдняў, нягледзячы на чаргу ў сваёй „Ніве".

Мне снілася, што хаджу я па садзе, і на кожным дрэве там растуць яблыкі, але старыя і чорныя, усе паморшчаныя, а я хачу з'есці, але не хачу маленькага і паморшчанага яблыка. Хаджу па садзе і прыглядаюся да дрэў. Ізноў бачу: на адным дрэве вісіць яблык, вялікі, чорны, гладкі, немаршчыністы. Я ўзяла палку, бо яблык высока вісеў, і хацела сабе яго збіць. Ды толькі дакранулася да яблыка і на гэтым прачнулася. Адзначаю, што мой татка ляжыць у бальніцы, а яму ўжо 87 гадоў. Мусіць, на яго гэты сон. Будзь так добры, мілы Астроне, разгадай мой сон, будзь так добры. Напішы праўду.

Клаўдзія

**Клаўдзія!** На жаль, і я не магу цябе пацешыць. Няма ўпэўненасці толькі ў тым, што гэты сон будзе датычыць якраз твайго бацькі. Аднак яблыкі заўсёды абазначаюць нейкую сварку, клопаты, непрыемнасці. Твае ж яблыкі былі на дадатак яшчэ чорныя.

**Астрон**

## Этнаграфічнае акенца



*Элемент ганка пры мяшчанскім доміку на вул. Пушкіна ў Бельску. Фота М. Гайдука.*

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Кох павесіў трубку і, яўна задаволены сабой, зноў пачаў хадзіць па кабінеце.

— Ну як, вы задаволены? — спытаў ён, спыніўшыся перад Родэ.

— Не ведаю, ці выратуе гэта твор, але калі вы так вырашылі, пан рэйхскамісар... — няўпэўнена пачаў вучоны.

— Бачыце, трэба падрыхтаваць адпаведную глебу, пераканаць усіх, што твор сапраўды пад пагрозай. Раскрытыкуем Розенберга і яго людзей за дрэнную ахову помнікаў. У нашым распараджэнні цэлы тыдзень. Потым з'явіцца першы артыкул. Перш чым Розенберг пашле туды сваіх людзей, пройдзе яшчэ два дні. І зноў трывожны сігнал у друку. І тады ў апошнім артыкуле мы напішам, што армія звярнулася да нас з просьбай забраць твор. Гэта нам поўнасцю развяжа рукі. Калі людзі Розенберга прыедуць у Царскае Сяло, Янтарны пакой ужо будзе ўпрыгожваць кенігсбергскі замак. Заўтра можаце пачаць рыхтаваць залу, у якой мы размесцім ваш цуд. А праз два дні вы адправіцеся пад Ленінград да фельдмаршала Кюхлера. Ён будзе ў курсе спраў...

Інтрыга была хітра задумана. Гаўляйтэр не меў права адкрыта забраць пакой. І не меў гэтага права па дзвюх прычынах. Па-першае, таму, што ён знаходзіўся не на яго тэрыторыях, а ў так званым нядаўна створаным „Остландзе", рэйхскамісарам якога быў не хто іншы, як сам Альфрэд Розенберг. А, па-другое, начальнікам спецыяльнага батальёна, які займаўся нібыта аховай помнікаў мастацтва, а фактычна грабяжом каштоўных скарбаў на акупіраваных тэрыторыях Еўропы, быў зноў жа... Альфрэд Розенберг. Вось чаму, калі б Кох дзейнічаў адкрыта, яго маглі б абвінаваціць у грабяжы. Затое інтрыга давала магчымасць увесці ў гульню трэцюю асобу або вермахт, што давала Коху магчымасць прыкінуцца занепакоеным лёсам вялікіх твораў мастацтва.

### МІСІЯ ФОН КЮНСБЕРГА

Штурмбанфюрэр СС Вільгельм фон Кюнсберг прачнуўся позна, з цяжкай пасля папойкі галавой. Па праўдзе кажучы, яго разбудзіў тэлефон. Званіў ад'ютант. Паўгадзіны ўжо ён павінен быў знаходзіцца ў сваім кабінеце. Як апалелы, ён зляцеў з лесвіцы. Пераскокваючы адразу па тры прыступкі. А праз пяць мінут ужо вадзіцель пакінуў машыну ля дома нумар шэсць на Герман Герынг штрасэ. Тут знаходзіўся батальён СС, які складаўся з вучоных-мастацтвазнаўцаў, адкамандзіраваных у распараджэнне Розенберга. Батальён насіў шыфр „ЕРР" (Эйнзацштаб рэйхслейтэр Розенберг), а проста яго называлі „Эйнзацштаб".

— Гер штурмбанфюрэр, — вітаў яго дзяжурны ад'ютант, — пазваніце рэйхсфюрэру.

Ён набраў знаёмы нумар і праз мінуту пачуў знаёмы голас свайго шэфа.

— У бліжэйшы час вас выкліча Розенберг, — сказаў Гімлер. — Рыхтуецца паездка. У спецыяльнай місіі вам даручана камандаванне другой ротай, кенігсбергская газета б'е трывогу, што каштоўныя творы мастацтва кінуты на волю лёсу. Зайдзіце да мяне, я дам вам падрабязныя ўказанні.

Праз некалькі дзён другая рота батальёна СС — „Эйнзацштаб" выехала з Берліна на ўсход. У першай машыне ехаў фон Кюнсберг з прафесарам Любке, экспертам па янтары аднаго з берлінскіх музеяў.

### У ЦАРСКІМ СЯЛЕ

А ў гэты час група з Кенігсберга набліжалася да Царскага Сяла. Доктар Родэ глядзеў на страшэнныя вынікі жорсткага акупацыйнага рэжыму. Ён бачыў людзей, якія паміралі з голаду, а іх пераганялі з месца на месца, як жывёлу; бачыў дзяцей, якія выпрошвалі хлебныя скарынкі. Вучоны, адарваны ад сапраўднасці, быў узрушаны выглядам краіны і людзей, да якіх ён ніколі не адчуваў нянавісці. Толькі цяпер ён зразумеў, як далёка зайшоў Гітлер і яго ідэалогія, зразумеў на што здольныя яго суайчыннікі. Гэта наводзіла яго на невясёлыя думкі.

Царскае Сяло было забіта войскамі. Па вуліцах цягнуліся танкавыя часці, накіроўваючыся ў бок блізкага фронту. Ад п'яных салдат не было праходу. З палацаў даносіліся песні і п'яныя крыкі. Там былі раскватараваны цэлыя падраздзяленні СС і арміі. Старадаўняя мэбля валялася па вуліцы, а п'яныя салдаты спалі на раскошных канапах. Пахла гарам.

Родэ з жахам глядзеў на гэты малюнак спусташэння. Вадзіцель, якога падганяў вучоны, з цяжкасцю прабіваўся да штаб-кватэры фельдмаршала Кюхлера.

Гітлераўскі маршал сустрэў доктара з п'янай гасціннасцю: ён якраз наладзіў адну са сваіх штодзённых папоек. Ён запрасіў Родэ да стала, але той адмовіўся, спасылаючыся на занятасць справамі. Родэ папрасіў дазволу разабраць і вывезці пакой. Праз некалькі мінут ад'ютант уручыў яму дакументы.

А крыху пазней Родэ, пры мігатлівым святле свечак разглядаў непаўторны ў сваёй прыгажосці Янтарны пакой.

*(Працяг будзе)*

Імпартгумар

## СІЛА ЎНУШЭННЯ

Па настойлівай просьбе жонкі я разам з іншымі выданнямі выпісаў і часопіс „Здоровье“.

Першы нумар быў прачытаны ад першай да апошняй старонкі. Асобныя артыкулы жонка перачытала нават паўторна.

Ноччу нечакана разбудзіла мяне і шэптам спытала:

— Ты не ведаеш, ад чаго можа балець сэрца?

— Не ведаю, — адмахнуўся я.

— А ведаеш, колькі за суткі сэрца пераганяе крыві?

— Не ведаю, — прызнаўся я, адчуўшы, што да раніцы мне не прыйдзецца заснуць. А мне так трэба прыйсці на работу са свежай галавой — галоўнаму архітэктару прапаноўваю свой праект забудоўкі нова́га мікрараёна за горадам.

— А я прачытала, што амаль дзесяць тысяч літраў...

Я ўжо, здаецца, засынаў, а ў мяне над вухам працягвалася лекцыя пра бранхіяльную астму, пра курэнне і карысць свежага паветра...

Праз некалькі дзён жонка пачала скардзіцца:

— Захварэла я, Віцечка, — у мяне, відаць, парнекапытацынуліт...

— З чаго ты ўзяла! — не паверыў я, не ведаючы, што за такую страшную хваробу яна знайшла сабе. Шчокі ў жонкі былі здаровыя, чырвоныя, толькі ў вачах палыхаў страх.

— У часопісе вычытала...

На наступны год я выпісаў жонцы „Спорт“. Адразу ж, прачытаўшы першы нумар, жонка кінулася па магазінах, і ў хуткім часе ў нас паявіліся гімнастычныя палкі, кольцы, ленты, мячы і многае іншае спартыўнае прыстасаванне...

З гэтага часу жонка не гаворыць пра хваробы, а ўсё наводзіць гутарку пра спорт.

**Анатоль Бароўскі**





**Залаты чалавек, але якой нізкай пробы!**

## НІЎКА



*У музеі.*

### ХАЛАСЦЯЦКІЯ ПРЫЧЫНЫ

*— Чаму дасюль ты нежанаты?*
*— Няма машыны яшчэ ў Наты.*
*Не ўмее Стася гатаваці,*
*У Ганны дужа злая маці.*
*Слабы заробак у Мальвіны,*
*Благі характар у Грыпіны.*
*Аnэта знаецца з другімі,*
*Яшчэ не ездзіў я да Рымы,*
*Не дабяруся да Настусі,*
*А Магдалены я баюся...*
*. . . . . . . . . . . . . .*
*Ды часта клікае Параска...*
*Вось вам прычыны, калі ласка.*

**Андрэй Лешчанка**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Турыст прыйшоў у брытанскі музей у панядзелак і ўбачыў, што ён зачынены. Ён доўга надакучваў служыцелю пытаннем, чаму музей зачынены, пакуль той не вытрываў:

— Разумееце, адна з нашых мумій памёрла на мінулым тыдні, і сёння пахаванне.

*

Амерыканская пара вярнулася з падарожжа па Еўропе.

— А вы былі ў Венецыі? — спыталі іх.

— Так, мы туды прыехалі, — сказала жонка, — але ўсе вуліцы былі заліты вадой, і людзям даводзілася ездзіць на лодках, так што мы там не спыніліся.

*

Габраўка спазнілася на вечарынку.

— У швачкі затрымалася, ці што? — пытаецца ў яе сяброўка.

— Ды дзе там — гадзіны дзве ў парфюмерным магазіне пратарчала.

— У чарзе стаяла?

— Не, чакала, пакуль мая сукенка насыціцца пахам духоў.

### ПА ЗУБАХ

Кастусь да афіцыянта:

— Я магу ўстанавіць узрост прынесеных вамі курыцы па зубах.

— Выбачайце, але ў курэй, наколькі мне вядома, няма зубоў.

— Пры чым тут куры? Я гавару аб сваіх зубах!















*Без слоў.*



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Якубюк з Дашаў змяшчаем песню*

## JESIENNE RÓŻE

**słowa: Andrzej Włast**
**muzyka: Artur Gold**

Tak niedawno był maj,
byliśmy tak szczęśliwi,
uśmiechnięci i tkliwi,
któż te dni znów ożywi?
Chłodną rękę swą daj,
spójrz mi w oczy i powiedz,
czy mnie kochasz? Ja wiem,
to jest złuda i snem.

Jesienne róże,
róże smutne, herbaciane,
jesienne róże są jak usta twe kochane.
Drzewa w purpurze ostatni dają nam schron
a serca biją jak dzwon,
na jeden ton...
Jesienne róże szepcą cicho o rozstaniu,
jesienne róże mówią nam o pożegnaniu.
I w liści chmurze idziemy przez parku głusz,
jesienne róże więdną już. Jesienne już.

Ty nie kochasz mnie już,
tak jak dawniej to było,
całą uczuć swych siłą,
to się wczoraj skończyło.
Dzisiaj więdnie wśród róż
nasza miłość gorąca,
zanim zwiędnie jak kwiat,
pozwól odejść mi w świat.

Jesienne róże...

### СЯМЕЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

— Згадзілася яна на тваю прапанову?

— Так, але прасіла яшчэ крыху пачакаць.

— Чаму?

— Яна мне сказала: „Любы, ты будзеш апошнім, за каго выйду замуж“.

### МЫ І ДЗЕЦІ

— Як цябе зваць, хлопчык?
— Міколка.
— А па бацьку?
— Не ведаю.
— А як жа мама татку кліча?
— Стары дурніла...

### У ЗААПАРКУ

Наведвальніку паказваюць у заапарку клетку, дзе мірна ўладкаваліся разам воўк і ягня.

— Здзіўляюча! — захапляецца наведвальнік. — Як вам гэта ўдалося?

— Вельмі проста. Мы тры разы ў дзень мяняем ягня.

### НАВУКА

Прафесар Казяўка да жонкі:

— Гэта страшна. Я праглынуў запінку.

— Нічога страшнага, — супакойвае яго прафесарша. — Прынамсі хоць раз у жыцці ты будзеш ведаць, дзе яна...

### ГУМАР З БАРАДОЮ

Панок: — Ваша сядзіба мне вельмі падабаецца, пане гаспадар. Я ахвотна наняў бы ў вас на лета гэтае памяшканне, калі б толькі вунь гэты свінарнік не стаяў так блізка ля хаты.

Гаспадар: — Але ж гэта, паночку, свінням не шкодзіць. Тут кожнае лета жыве хворая пані, а ў мяне, дзякуй богу, яшчэ ніводная свіння не здохла ад гэтага.



## КУРЁЗЫ

### ЗАБЫЎЧЫВЫ ЖАНІХ

Уявіце сабе стан маладой дзяўчыны, якая пасля шлюбнай цырымоніі даведваецца, што яна будзе не адзінай жонкай свайго выбранніка, а... трэцяй. Такі кур'ёзны выпадак адбыўся не так даўно і ў Інданезіі. Як вядома, мусульманскае заканадаўства дазваляе палігамію — многажонства аж да чатырох жонак. Але з абавязковай умовай: муж павінен забяспечыць ім прымальныя ўмовы для жыцця. Аднак многія азіяцкія дзяржавы мадэрнізавалі гэты звычай. Тры гады назад у Інданезіі быў прыняты закон аб тым, што мужчына мае права на другую жонку са згоды першай. На падставе гэтага закона бацька зняважанай дзяўчыны і прыцягнуў да суда забыўчывага жаніха.

### ПРЫВІД-СЛАВУТАСЦЬ

Амерыканскім бюро падарожжаў усё цяжэй прыцягваць турыстаў у сваю краіну. Таму нацыянальнае агенцтва па турызму выпрацавала такую праграму, каб прапанаваць падарожжы ў замагільны свет. Яно выдала вялікі даведнік з указаннем дамоў у ЗША, дзе жывуць... прывіды. У штатах Мэн і Каліфорнія, калі верыць даведніку, існуе больш чым дваццаць такіх месц. Гавораць таксама, што некалькі пасланцоў з таго свету з'явілася паблізу Вашынгтона. Даведнік сцвярджае, напрыклад, што дух П'ера Л'Анфана — француза, які праекціраваў горад, ходзіць цяпер вакол Капітолія ў чаканні, калі кангрэс заплаціць яму за работу.




**Нас і калісь наведвалі іншапланецяне, але тады іх называлі нячыстай сілай.**